


**Першакласнікі з Белавежы са сваёй выхавацелькай Зінаідай Дзенцёл. Яны пачалі сёлета першы год новай дзесяцігадовай школы паводле рэформы асветы. На пачатак — сямейны здымак разам з Петрусёвым сабачкам, які ніяк не хоча расставацца з хлопчыкам нават на гадзіны ў школе.**

**Фота Я. Чэрнякевіч.**

№ 40 (1103) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 1.X.1978 г.

А. Купрын

# Барбос і Жулька

Барбос быў невялічкага ўзросту, але прыземісты і шырокагруды. Дзякуючы доўгай, ледзь-ледзь кучаравай поўсці ў ім заўважалася аддаленае падабенства з белым пудлем, але толькі з пудлем, які ніколі не бачыў ні мыла, ні грэбеня, ні нажніц. Летам ён заўсёды ад галавы да хваста быў абчэплены калючкамі „рэпіхамі", восенню ж клакі поўсці на яго нагах, бруху, папэцканыя ў брудзе і потым высахлыя, ператвараліся ў сотні карычневых, вісячых сталактытаў. Вушы Барбоса вечна насілі на сабе сляды „баявых паядынкаў". Такіх сабак, як ён, заўсёды і ўсюды завуць толькі Барбосамі. Гэтыя сабакі адрозніваюцца вернасцю, незалежным характарам і тонкім слухам.

Жулька таксама належала да вельмі распаўсюджанай пароды маленькіх, танканогіх сабачак з гладкай чорнай поўсцю і жоўтымі падпалінамі над брывямі і на грудзях. Галоўнай рысай яе характару была далікатная, амаль сарамлівая ветлівасць. Гэта не значыць, каб яна адразу ж пераварочвалася на спіну, пачынала ўсміхацца ці паніжана поўзала на бруху, калі толькі з ёй загаворваў чалавек (так робяць усе лісліывя і труслівыя сабакі). Не, да добрага чалавека яна падыходзіла з характэрнай для яе даверлівасцю, абапіралася на яго калена сваімі пярэднімі лапкамі і далікатна працягвала мордачку, патрабуючы ласкі. Далікатнасць яе выражалася галоўным чынам ў манеры есці. Яна ніколі не прасіла, наадварот, яе трэба было ўпрошваць, каб яна ўзяла костачку.

Вядома, Жулька адзінагалосна прызнавалася пакаёвым сабачкам. Што датычыць Барбоса, дык нам, дзецям, вельмі часта даводзілася яго бараніць ад справядлівага гневу дарослых. Па-першае, ён меў даволі імглістае паняцце аб праве ўласнасці (асабліва, калі гэта датычыла ежы), а, па-другое, не вылучаўся акуратнасцю ў туалеце. Гэты разбойнік мог праглынуць у адзін прысест добрую палавіну індыка, або разлегчыся, толькі што выскачыўшы з глыбокай і бруднай лужыны, на святочнае, белае, як снег, пакрывала мамінага ложка.

Летам да яго адносіліся паблажліва, і ён звычайна ляжаў на падаконніку адчыненага акна у позе спячага ільва.Аднак ён не спаў: гэта заўважалася па яго брывях, якія зусім не пераставалі рушацца. Барбос чакаў... Ледзь толькі на вуліцы супроць нашага дома паказалася сабачая фігура, Барбос імгненна скатваўся з падаконніка і ляцеў на парушальніка тэрытарыяльных законаў. Ён цвёрда памятаў вялікі закон усіх спаборніцтваў і баёў: бі першы, калі не хочаш быць пабітым, і таму рашуча адмаўляўся ад усялякіх прынятых у сабачым свеце дыпламатычных прыёмаў, як папярэдняе абнюхванне, пагражальнае рычанне і гэтак далей. Барбос, як маланка, налятаў на саперніка, груддзю збіваў яго з ног і пачынаў грызню. На

працягу некалькіх мінут сярод густога слупа пылу барашкавалі, спляталіся клубком, два сабачыя целы. Нарэшце Барбос перамагаў. У той час, калі яго вораг кідаўся наўцёкі, Барбос ганарыста вяртаўся на свой пост на падаконніку. Праўда, часам пры гэтым яго трыумфальным шэсці ён моцна накульгваў, а вушы яго ўпрыгожваліся дадатковымі вісёркамі, але, мабыць, тым саладзейшай здавалася яму перамога.

Паміж ім і Жулькай панавала рэдкая згода і самая далікатная любоў. Магчыма, Жулька асуджала свайго сябра за буйны характар і дурныя манеры, але яна ніколі яўна таго не выказвала. Яна нават тады стрымлівала сваё незадавальненне, калі Барбос, праглынуўшы ў некалькі прыёмаў сваё снеданне, аблізваючыся, падыходзіў да Жулькінай міскі і засоўваў у яе сваю кудлатую морду. Вечарам, калі сонца пякло не так моцна, абодва сабакі любілі пабавіцца на двары. Яны то бегалі адзін ад другога, то рабілі засады, то нібы злосна рычалі, робячы выгляд, што грызуцца паміж сабой.



Аднойчы ў наш двор забег бешаны сабака. Барбос бачыў яго са свайго падаконніка, але, замест таго, каб як звычайна, кінуцца ў бой, ён толькі дрыжаў усім целам і жаласна павізгваў. Сабака бегаў па двары, усім сваім выглядам наганяючы страх на людзей і жывёлу. Людзі пахаваліся за дзверы і боязна выглядалі з-за іх.

Раптам усе ахнулі з перапалоху і нечаканасці. Аднекуль з-пад хлява выскачыла маленькая Жулька і ва ўсю моц сваіх маленькіх ножак панеслася наперарэз бешанаму сабаку. Адлегласць паміж імі змяншалася вельмі хутка. Потым яны сутыкнуліся... Гэта ўсё адбылося так хутка, што ніхто не паспеў нават Жульку паклікаць назад. Ад сільнага ўдару яна ўпала і пакацілася па зямлі, а бешаны сабака адразу ж павярнуўся да варот і выскачыў на вуліцу.

Калі Жульку агледзелі, дык на ёй не знайшлі ніводнага следу зубоў. Мабыць, сабака не паспеў яе нават укусіць. Але напружанне гераічнага парыву і страх перажытых імгненняў не прайшлі дарма для беднай Жулькі... З ёй здарылася нешта дзіўнае, невытлумачальнае. У адзін дзень яна пахудзела да непазнання; то ляжала гадзінамі ў цёмным кутку, то насілася па двары, куруцячыся і падскокваючы. Яна адмаўлялася ад яды і не паварочвалася, калі яе клікалі.

На трэці дзень яна так аслабла, што не магла ўзняцца з зямлі. Па загаду бацькі яе аднеслі ў пусты хлеў, каб яна магла спакойна там памерці.

(Працяг на стар. 5)

**Л. Сяргееў**

# Толік

Мой дзед і бацька былі паляўнічымі. Я таксама захапляўся паляваннем. Мой дзядзька, вырашыўшы, што па традыцыі і мой брат Толік будзе паляўнічым, нейк падарыў яму аднастволку. Да гэтага Толік нікога ніколі не забіваў. Нават з рагаткі ён не збіў ніводнага вераб'я. Цэлы год стрэльба вісела на сцяне неабстрэленай. Кожны раз, прыязджаючы да нас, дзядзька пытаўся, ці шмат Толік здабыў дзічыны, і, даведаўшыся, што ён наогул не хадзіў на паляванне, пачынаў яму тлумачыць, які характар выхоўвае паляванне. І ўсе мае суродзічы паддаквалі яму і ківалі галовамі. Спачатку яны толькі паддаквалі, потым падсмейваліся, а потым, бачачы, што да Толіка нічога не даходзіць, пачалі яўна смяяцца: дваюрадны брат яхідна расказваў розныя выпадкі пра баязліўцаў, дваюрадныя сёстры ў вочы Толіку смяяліся і сароміліся хадзіць з ім па вуліцы. Асабліва перараймалася мая цётка. Яна проста патрабавала працягваць сямейныя традыцыі. Цётка гаварыла, што мужчына не паляўнічы — гэта наогул не мужчына. Кожны раз, убачыўшы Толіка за чытаннем кніжкі, цётка падсоўвала яму апісанні жыцця жывёл і справачнікі па паляўніцтве.

Толік любіў музыку і марыў стаць музыкантам, але цётка і слухаць не хацела. Яна гаварыла, што ў Толіка зусім няма слуху, што яшчэ ў дзяцінстве яму мядзведзь на вуха наступіў. І ўсе сваякі згаджаліся з ёй і гаварылі Толіку:

— Эх, галава! І што з цябе выйдзе?

І вось аднойчы сваякі, нарэшце, угаварылі Толіка прыстраляць стрэльбу ў садзе. Яны прымацавалі мішэнь, адлічылі пятнаццаць крокаў і далі Толіку стрэльбу. Толік прыцэліўся і стрэліў. І не трапіў не толькі ў мішэнь, але і ў дрэва. Ствол стрэльбы падкінула, і ўвесь шрот паляцеў некуды ўверх. Не знайшоўшы ніводнай шроцінкі, сваякі схапіліся за жываты і пачалі рагатаць. Асабліва рагатала цётка. Ледзь не самлела ад смеху.

Толік думаў, што пасля гэтага яго пакінуць у спакоі, але не. Сваякі вырашылі, што ў яго проста няма ўмення, але што яно прыдзе само сабой у час палявання. Яны былі перакананы, што Толік прыроджаны стралок і што ў яго крыві паляўнічы інстынкт. На другі дзень Толіку купілі выправу: куртку, рукзак, патранташ, гумавыя боты і яшчэ там нешта. Потым усё гэта апранулі на яго, напакавалі ў рукзак ежы і пажадалі



ўсяго найлепшага. Потым Толік расказваў мне, што яму зусім нехацелася ісці на паляванне, але ён не ведаў куды падзецца, і ногі яго самі панеслі ў лес. „І раптам, — расказваў Толік, — мне прыйшла ў галаву цудоўная думка. Я пайшоў не ў лес, а да сябра-музыканта. У сябра я скінуў свой рынштунак, пераапрануўся, і мы пачалі займацца музыкай“...

Пасля гэтага ўсё пайшло інакш. Сваякі не маглі нацешыцца з Толіка. Ён ішоў на паляванне з самай раніцы і вяртаўся позна вечарам. Праўда, ён вяртаўся без дзічыны, але для пачатку сваякам гэтага хапала. Дзічыну ім замянялі яго апавяданні аб прыгодах, а іх ён укладаў вельмі ўмела.

З таго дня Толік штодзень „хадзіў на паляванне“ і сваякі сустракалі яго каля дома. Яны садзілі Толіка за стол, ставілі перад ім вячэру і глядзелі на яго з замілаваннем. Асабліва цётка. Яна ўвесь час падлівала Толіку і ўся свяцілася ад шчасця. Нарэшце з Толіка будзе толк.

Так мой брат стаў музыкантам. У таямніцы ад сям'і ён паступіў у музычную школу і скончыў яе. А на выпускным канцэрце, пасля свайго выступлення Толік убачыў усіх сваіх сваякоў. І падумаць толькі! Яны апладзіравалі галасней за ўсіх, а цётка нават крычала „брава“!

Пасля канцэрта сваякі сустрэлі Толіка ля выхада.

— З цябе будзе слаўны музыкант!

Апошняй падышла цётка. Яна пацалавала Толіка ў лоб і сказала:

— Я заўсёды ведала, што ты таленавіты!

(Працяг са стар. 3)

# Барбос і Жулька

Праз гадзіну пасля таго, як Жульку замкнулі, да хлява прыбег Барбос. Ён быў моцна ўсхваляваны і пачаў спачатку скуголіць, а потым выць, падняўшы ўверх галаву. Часам ён спыняўся на хвіліну, каб панюхаць з трывожным выглядам і насцярожанымі вушамі шчыліну дзвярэй у хлеў, а потым зноў доўга і жаласна выў.

— Тата, упусці Барбоса ў хлеў. Ён хоча развітацца з Жулькай. Упусці, тата, — прычапіліся мы да бацькі.

Ён спачатку сказаў, каб мы адчапіліся, але потым згадзіўся. Як толькі адчынілі дзверы хлява, Барбос кінуўся да Жулькі, абнюхаў яе і з ціхім візгам пачаў лізаць яе ў вочы, у морду, у вушы. Жулька слаба памахвала хвастом і старалася ўзняць галаву — ёй гэта не ўдалося. У развітанні сабак было нешта чулае.

Калі Барбоса паклікалі, ён паслухаўся і, выйшаўшы з хлява, лёг каля дзвярэй на зямлі. Ён ужо больш не хваляваўся і не выў, а толькі зрэдку ўзнімаў галаву і нібы прыслухоўваўся да таго, што робіцца ў хляве.

Гадзіны праз дзве ён зноў завыў, але так голасна і выразна, што трэба было адчыніць дзверы. Жулька ляжала нерухома на баку. Яна здохла...





# ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

## ЦЫРК ПРЫЕХАЎ

У верасні па Беласточчыне вандраваў цырк „Камета". Выступаў ён у Чорнай Беласточкай, Васількове, даўжэй у Беластоку, а магчыма, што калі гэты нумар трапіць да чытачоў, цырк будзе ўжо ў Гайнаўцы.

„Зорка" пабывала ў гэтым цырку, каб расказаць вам, што там бачыла і аб чым даведалася.

Як у кожным цырку, розныя там цікавыя штучкі паказвалі. Былі жанглёры, якія падкідалі ўсё, што пад рукі трапіла, ды так хутка, што аж у вачах мігала; былі і акрабаты пад купалам, і эквілібрысты, што захоўвалі раўнавагу цела нават там, дзе, здаецца, гэта зусім немагчыма, і вельмі спрытныя музыканты-жартаўнікі, што гралі чым і на чым папала, а музыка была цудоўная.

А найбольшая пацеха дзяцей — кловуны (іх было аж чатыры) так смяшылі, што дзіцячы смех не сціхаў у зале.

Амаль палову прадстаўлення склалі выступленні дрэсіраваных жывёл. Танцавалі прыгожыя вялікія коні, вытанцоўвалі парамі і чацвёркамі, кланяліся, схіляючы галовы. Маленькія конікі — поні вазілі незвычайных ездакоў — сабак, якія ўскаквалі на іх і саскаквалі са спрытам акрабатаў. Група белых галубоў паслухмяна захоўвалася на кожны рух маладой дрэсіроўшчыцы. Потым увайшлі два вялізныя, цяжкія шэрыя сланы. Але і яны мелі што паказаць сваім гледачам. Такі вялізны шматтонны слон узлазіў усіма чатырма нагамі на невялічкі табурэцік і ўтрымоўваў на ім раўнавагу. Потым нават стаяў на гэтым табурэце на трох і на двух нагах, а дрэсіроўшчыца была такая пэўная, што слон устаіць у гэтай пазіцыі, што нават сама яшчэ садзілася на гэты табурэт і сядзела пад сланом.

Пасля перапынку ўсю арэну заставілі высознымі металічнымі кратамі — клеткамі. Было вядома, што зараз артыстамі будуць драпежнікі. І сапраўды, вядучы аб'явіў выступленне дрэсіроўшчыцы сусветнай славы Крыстыны Тэрлікоўскай. Зграбная яснавалосая дзяўчына ўвяла за сабой сваіх падапечных — чатыры тыгры і чатыры ільвы. Усе вялізныя, магутныя, на мяккіх, але вялікіх і моцных лапах. Паўднёвыя і грозныя „коцікі" расселіся па загаду сваёй уладарніцы і паслухмяна, хоць часам незадаволена вышчэрваючы зубы, выконвалі ўсе праграмныя пункты. Напрыклад, тыгрысіца Кама, узлезшы на столік, які круціўся, каталася, а круціла столік іншая тыгрысіца. Потым на століку разам з Камай адпачывала дрэсіроўшчыца, што вельмі падабалася тыгрысіцы. Тая нават так узваліла свае велізарныя лапы на сваю апякунку, што тая нейкі момант не магла з-пад яе выбрацца.

Здавалася, што гэтыя дзікія звяры любяць сваю апякунку. З гэтай думкай „Зорка" звярнулася да слаўнай дрэсіроўшчыцы з просьбай расказаць трошкі пра сябе.

Аказваецца, Крыстына Тэрлікоўская, пакуль стала дрэсіроў-

шчыцай, каля дзесяці год была акрабаткай і выступала на трампліне пад купалам. Потым змяніла прафесію і пачала працу з дзікімі звярамі. Яна любіць жывёл і любіць сваю, хоць вельмі небяспечную, але такую захапляльную працу. А што праца небяспечная, Крыстына пераканалася не раз. Аднойчы ўжо думала, што не выйдзе з гэтага жывая. Малады тыгр, першы артыст у групе, нешта заартачыўся, падмяў дрэсіроўшчыцу пад сябе, а іншым пазволіў шарпаць і рваць сваю паню. Ён трымаў, а іншыя скальпавалі", — так даслоўна выразілася Крыстына. Давялося некалькі месяцаў ляжыцца, пакуль вярнулася здароўе. Але, як казала К. Тэрлікоўская, акрабатыка зусім не была больш бяспечнай. Чатыры разы ляцела акрабатка ўніз з-пад купала, а адзін раз так трагічна, што толькі шчасцем можна тлумачыць, што засталася жыць.

Колькі сілы, колькі ўпартасці і цвёрдасці духу мае гэтая звычайная на першы погляд жанчына! Колькі працы і энергіі ўкладае яна ў свой любімы занятак. А ўсё для таго, каб гледачы былі задаволены, каб выступленні падабаліся.

Дык вось, ідзіце глядзець, цырк чакае.

*Яніна Чэрнякевіч*



## Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 7, кв. 18. Іры Чуйкевіч, вучаніцы шостага класа.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 97, кв. 26. Валі Шкадровіч, вучаніцы сёмага класа.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 63, кв. 63. Іры Ярмак, вучаніцы сёмага класа.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, Матвееўскі пер., 9, кв. 1. Наташы Марозавай, вучаніцы сёмага класа.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 82, кв. 48. Тамары Петрашкевіч, вучаніцы сёмага класа.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 5, кв. 57. Валі Кіцаль, вучаніцы сёмага класа.

**Гульні**

### ТРЫ РАЗЫ

Намалюйце на пляцоўцы кружок і ў трох метрах ад яго лінію, з-за якой будзеце кідаць. Па другі бок кружка зрабіце шэсць кантрольных ліній. Першая — на адлегласці пяці метраў ад кружка, іншыя — у двух метрах адна ад другой.

Па чарзе кідайце мяч у кружок. Калі мяч, трапіўшы ў кружок, адскочыць за першую лінію, кідаючы атрымлівае адзін пункт, за другую — два, за трэцюю — тры, адпаведна за кожную наступную. За апошнюю, шостую — шэсць пунктаў.

Усяго па тры разы ўсе кінуць. Хто пераможа?

 **А Д Г А Д А Н К А** 



Трыма лініямі адгарадзі зайцаў ад капусты.

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1**